# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 7 (1251) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 17 ЛЮТАГА 1980 г. ЦАНА 1 зл.



*Сабраўся карэспандэнцкі авангард.*

## Сямейная сустрэча

Карэспандэнцкія з'езды — гэта ўжо ў нас традыцыя. Кожны год збіраецца ўся ніваўская сям'я — і хатнія, і запрошаныя госці. Дзеляцца ўражаннямі, парадамі, парушаюць розныя праблемы. Гэта яны сваімі інфармацыямі, нібы правадамі, спалучаюць жыхароў усёй Беласточчыны і не толькі. Калі б нарысаваць геаграфічную карту і спалучыць Беласток з мясцовасцямі карэспандэнтаў, дык убачылі б, што яны не толькі па ўсім ваяводстве, але нават у адлеглых кутках нашай краіны.

Падлікі актыўнасці карэспандэнтаў за мінулы год дазволілі вылучыць дваццацітрохасабовы авангард. Такі ж, як і папярэднім разам, але наколькі больш плённы! Паявіўся ў „Ніве" аж 741 матэрыял, на 127 больш, чым у 1978 годзе. Хто ж яны, гэтыя людзі?

Мікалай Панфілюк — пісьманосец з Дубіч Царкоўных, пераможца мінулагодняга конкурсу на карэспандэнта года. Яго інфармацыі — гэта вернае адлюстраванне праблем, здарэнняў, недахопаў і поспехаў мясцовай гміны.

Эдмунд Вайсковіч — другі карэспандэнт года. Пажылы, заўсёды радасны чалавек. Што б значыла Гайнаўка без Вайсковіча? Яго семдзесят сем інфармацый — гэта кадры з жыцця гэтага горада і яго ваколіц. Лаканічныя і прадуманыя матэрыялы.

На трэцім месцы — Уладзімір Сідарук. Належыцца яму асаблівая пахвала за ўпартыя і шырокія пошукі, за змястоўнасць артыкулаў, за форму і змест.

Трыццаць восем матэрыялаў Пятра Байко з Белавежы ставяць яго на чацвертым месцы. Яны, нібы сучасныя пушчанскія казкі, прыгожа і вобразна расказваюць аб сужыцці чалавека з прыродай.

І можна так пералічваць кожнага па чарзе, бо кожны з іх на гэта заслугоўвае. Неабходна было б спыніцца і на Васілю Петручуку з яго фельетонамі „З маёй званіцы", і на „Запісках натураліста" Б. Ф. Рудкоўскіна, напісаных простай і даступнай кожнаму чытачу мовай, і на Тамашу Кірылаве з адлеглай Легніцы, і на нашых паэтах: Івану Кірызюку, Мікалаю Лук'янюку, Міхасю Красоўскаму ды Хведару Хлябічу, якія, каб глыбей увайсці ў душу чытача, звяртаюцца да вершаванай мовы. Аб кожным з іх можна было б шмат і шмат гаварыць. Яны, як сказала рэдактар Вера Валкавыцкая, „летапісцы нашых дзён і зямлі". Гэта людзі, якіх нешта ўстрывожыла і пачалі пісаць, ідучы на дапамогу іншым. І неабходна тут прывесці словы В. Петручука: „Мы ніколі не даб'емся ідэалу, але пустазелле глушыць трэба. А можа часам стрымаем некага перад нейкім глупствам?.."

Адначасова сваімі публікацыямі даюць яны прыклады другім. Людзі пачынаюць пісаць не заўсёды на беларускай мове, часта на мясцовай гаворцы, або перамешаных польска-беларуска-рускай мовах, але не істотнае, як заявіў Хведар Хлябіч, „па-якому ты сказаў, але як і што". І карэспандэнты,

(Працяг на стар. 3)

## ТОЛЬКІ АДНО ПЫТАННЕ

У пачатку бягучага года мы звярнуліся да начальнікаў гарадоў і гмінаў Беластоцкага ваяводства з пытаннем:

**— Што вы лічыце за найважнейшае грамадска-гаспадарчае дасягненне ў гміне ў мінулым годзе?**

Першым адказ на пытанне даслаў у рэдакцыю „Нівы" начальнік Нараўкаўскай гміны **ЮЗЭФ НАВІЦКІ**. Прыводзім яго поўнасцю:

„У нашай гміне ў мінулым годзе закончылі пабудову больш 10-кіламетровага адрэзка асфальтаванай дарогі з Навасадаў у Нараўку і 1,5-кіламетровай асфальтаванай вуліцы А. Міцкевіча ў Нараўцы.

Жыхары Нараўкаўскай гміны выканалі рэкордны грамадскі пачын — на агульную суму 3 мільёнаў 400 тысяч злотых.

У вёсках Лесна і Міклашэва закончылі камасацыю зямельных угоддзяў ПФЗ.

У Нараўцы ГС адкрыў вялікі прыгожы рэстаран і кафейную".

Начальнік Міхалоўскай гміны — **інж. ЗЯНОН БЯЗУБІК** паінфармаваў: найважнейшым грамадска-гаспадарчым дасягненнем з'яўляецца пабудова 11 кіламетраў даяздных дарог да лугоў і сенажацяў. У грамадскіх пачынах былі зроблены работы на суму 6 100 тысяч злотых (адрамантавалі 5,5 км мясцовых дарог, пабудавалі ў сырым стане будынак гміннага ўпраўлення, адрамантавалі плавальны басейн, пасадзілі 5 тысяч дэкаратыўных дрэўцаў і 1,5 тысячы кустарнікаў, апрача таго пасадзілі 18 гектараў лесу. У пералічэнні на аднаго статыстычнага жыхара з гэтай сумы выпала па 598 злотых.

Начальнік горада і гміны Саколка — **інж. ЯН ЗЭМБОВІЧ**:

— За найважнейшае мінулагодняе дасягненне лічу развіццё сучасных форм гаспадарання ў сельскай гаспадарцы. Лік спецыялістычных гаспадарак у нашай гміне павялічыўся ў 1979 на 37 і зараз іх 124. Сярод іх пераважаюць гаспадаркі, якія спецыялізуюцца ў жывёлагадоўлі. Найбольшых прадукцыйных поспехаў дабіліся наступныя сяляне: Здзіслаў Рашкоўскі з Сярбоўцаў (гадуе ён 30 штук быдла), Багуслаў Ігнатовіч з Пуцілкаў (гадуе 14 штук быдла), Вацлаў Скварко з Сярбоўцаў (гадуе 27 штук быдла), Зыгмунт Клімовіч з Задважанаў (гадуе 160 свіней). Вальдэмар Геніюш з Геніюшаў пабудаваў новую хлеўню, здабываючы першае месца ў конкурсе „Залатая веха" і зараз гадуе 250 штук свіней.

Усе спецыялістычныя гаспадаркі, якія гадуюць быдла і свіней, абапіраюць прадукцыю на ўласнай кармавой базе. Яны вядуць рацыянальную гаспадарку на пасбішчах, робяць кішонкі і падсеўкі, змагаюцца за высокія ўраджаі збожжавых культур.

Умацаваліся і развілі сваю дзейнасць сялянскія вытворчыя калектывы. У гміне іх ёсць 50. У канцы мінулага года заснавалася першая сельскагаспадарчая прадукцыйная слулдзельня, якая занялася вырошчваннем агародніны, фруктаў і кветак. Будзе яна таксама перапрацоўваць вырашчаную агародніну ў адаптаваным з гэтай мэтай будынку ў Багушах.

Значна палепшыліся сацыяльна-бытавыя ўмовы жыхароў горада Саколкі. Наваселле спраўлялі 100 сем'яў, якія атрымалі кватэры ў рамках спулдзельчага будаўніцтва. Апрача таго, пабудавалі яшчэ 72 аднасямейныя дамы. Прадпрыемствы Саколкі пабудавалі першыя ў гэтым горадзе яслі на 100 месц. У грамадскім пачыне рушыла пабудова чацвёртага прадшколля на 120 месц. Расце таксама бальніца на 258 месц.

**Падрыхтаваў Я. Целушэцкі**

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Вайнахі

Маленькая гэта вёсачка — усяго два дзесяткі гаспадарак. Затое радавод свой выводзіць яна не абы ад каго, а ад тых мужных вояў, што разграмілі крыжацкія полчышчы пад Грунвальдам! Гэта некалькім з іх за адвагу ў бітве сам кароль Ягела, быццам бы, тут „адрэзаў" па ладнай валоцы зямлі, каб у дастатку сабе жылі і хлеб жавалі.

Вядома, жыццёвая праўда пераважна карыстаецца больш бляклымі фарбамі, чым красачная легенда. Справа ў тым, што паўстанне Вайнахоў хутчэй за ўсё трэба звязваць з дваром вялікага князя літоўскага Сакалда, які знаходзіўся непадалёку ўпадзення рэчкі Саколдкі (сённяшняй р. Саколкі) у раку

(Працяг на стар. 4)



*У зацішнай вёсачцы Вайнахі затаіліся красачныя абразкі са змрочнай даўніны.*

# ХРОНІКА

■ На апошнім сходзе гуртка БГКТ у Саколцы быў удакладнены план працы гуртка да канца бягучага года. Сход уганаравалі сваёй прысутнасцю першы сакратар гмінна-гарадскога камітэта ПАРП Васіль Паскробка і старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік.

■ Справаздачна-выбарны сход у Старым Ляўкове (гміна Нараўка) звярнуў асаблівую ўвагу на недастатковую эфектыўнасць працы гуртка. У новае праўленне выбраны: Ніна Сікорская — старшыня гуртка, Ірэна Мірановіч — намеснік старшыні, Валянціна Грыка — сакратар, Таццяна Харкевіч — скарбнік, а дэлегатам на з'езд БГКТ выбраны Іван Рэент.

■ 24 студзеня адбылося пасяджэнне гарадскога праўлення гуртка БГКТ у Беластоку. На ім абмяркоўваўся даклад на справаздачна-выбарную кадэнцыю, якая адбудзецца 24 лютага. Падкрэсліваючы вялікія дасягненні, прысутныя не памінулі і некаторыя недахопы ў дзейнасці. Было прысвечана таксама шмат увагі і арганізацыйным справам, звязаным з гэтай канферэнцыяй. (МХ)

# З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ДАЎГАВЕЧНЫЯ ТРУБЫ

Лепш за ўсялякія фарбы і смолы ахоўвае трубаправоды ад карозіі звычайны бетон. Абліцаваныя ім звонку і знутры вадаводы служаць у дзесяць з лішнім разоў больш, чым з чыстай сталі. Расход металу на „слаёныя“ трубы змяншаецца ўтрая. Меліяратары Беларусі зберагуць тысячы тон сталі і чыгуну.

Асноўную эканомію дасць новы цэх, пушчаны на заводзе жалезабетонных вырабаў у гарадскім пасёлку Коханава Віцебскай вобласці. Гэтыя эканамічныя трубы выпускаюць таксама цэхі ў Скідалі, Ельску і Любані.

### КІРУЕ АЎТАМАТ

Завод-аўтамат хлебабулачных вырабаў уведзены ў эксплуатацыю ў горадзе Бяроза. Амаль усе вытворчыя працэсы тут механізаваны і аўтаматызаваны. Праектная магутнасць завода — 40 тон хлебабулачных вырабаў у суткі. На ім занята амаль столькі ж рабочых, як і на старой вытворчасці, але там штосутачна выпускалася толькі 18 тон хлеба.

### КАЛЯНДАР

**380 гадоў назад**
17.2.1600 на Плошчы Кветак у Рыме быў спалены Дж. Бруна, італьянскі філосаф.

**170 гадоў назад**
22.2.1810 нар. Ф. Шапэн, польскі кампазітар і піяніст, заснавальнік польскай музычнай класікі.

**60 гадоў назад**
22.2.1920 нар. А. Коршак, беларускі савецкі паэт.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE“**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 262. Nakład 7.900 egz. I-2



*Выступае Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР і Дзяржаўная акадэмічная руская харавая капэла імя А. Юрлава.* *Фота Э. Трыгубовіча*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

# ЛІРА БЕЛАРУСКАЙ ВОСЕНІ

„Пятая пара года ўступае ў свае правы...“ Так гавораць у Беларусі, калі ў лістападаўскія дні на гарадскіх вуліцах з'яўляюцца афішы, запрашаючыя на канцэрты Усесаюзнага фестывалю мастацтва „Беларуская музычная восень“.

Гэты фестываль адбыўся ўжо шосты раз. Колькасць яго паклоннікаў, як сярод гледачоў, так і сярод саміх удзельнікаў, узрастае з году ў год. Гэта і не дзіўна. Найбольш пераборліваму слухачу, гледачу ў багатым фестывальным „букеце“ абавязкова нешта спадабаецца. Аматарам класічнага балету і сучаснай камернай музыкі, маладзёжных вакальна-інструментальных груп і самабытнага нацыянальнага мастацтва розных народаў, мінчанам і жыхарам аддаленых ад беларускай сталіцы раёнаў адрасуюцца разнародныя праграмы.

У гэтыя дзесяць дзён рэспубліка нагадвае велізарную канцэртную плошчу праз Палацы і Дамы культуры — вясковыя і гарадскія; праз актавыя залы навучальных установ, эстрады кінатэатраў і тэлестудыі пралягае маршрут фестывалю. Вядома, усе яго дарогі перакрыжоўваюцца ў Мінску. Тут кожны вечар быў запоўнены рознымі выступленнямі. Напрыклад, сімфанічная, камерна-інструментальная і вакальная музыка гучыць у філармоніі, любіцелі песеннага і танцавальнага фальклору збіраюцца ў канцэртнай зале Акруговага дома афіцэраў; „зорак“ эстрады можна ўбачыць у Мінскім палацы спорту, а ў Дзяржаўным акадэмічным вялікім тэатры БССР можна пазнаёміцца з майстрамі опернай і балетнай творчасці.

Аб мастацтве не прынята гаварыць лікамі, але статыстыка памятаецца: каля 1,5 тысяч удзельнікаў, 300-500 канцэртаў. А колькі яшчэ сяброўскіх выступленняў наладжваецца пасля таго, як артысты пабываюць на экскурсіях на прамысловых прадпрыемствах, або пазнаёмяцца з мясцовай сельскай гаспадаркай, або сустрэнуцца са студэнтамі!

У шматлікім і штогод абноўленым атрадзе ўдзельнікаў ёсць і нязменнае ядро. Гэта — гаспадары лістападаўскай дэкады, майстры мастацтва Беларусі. Многія з іх добра вядомы і за мяжой. Так, напрыклад, у Фінляндыі і ў Францыі выступалі артысты Дзяржаўнага народнага хору БССР. У Ліване, Сірыі, Бельгіі, Аўстрыі, Галандыі, Швейцарыі, Швецыі, ФРГ, Мексіцы, Сальвадоры, Італіі — Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі. Жыхары Даніі з захапленнем прымалі фальклорна-харэаграфічны ансамбль „Харошкі“. У 23 краінах свету знаёмы з мастацтвам беларускага цымбаліста Аркадзя Астрамецкага (у тым ліку ў Англіі, Бірме, Малазіі, Індыі, Японіі), вакальна-інструментальныя кампазіцыі ансамбля „Песняры“ карысталіся поспехам у амерыканскіх Штатах. Спісак беларускіх калектываў — удзельнікаў фестывалю можна працягваць. Гэта і Дзяржаўны народны аркестр БССР, і папулярны вакальна-інструментальны ансамбль „Верасы“.

Цяжка пералічыць і гасцей, чые імёны ўпрыгожвалі афішы „Беларускай музычнай восені“ і могуць сведчыць аб аўтарытэтнасці гэтага форума мастацтва. Тут прадстаўнікі ўсіх рэспублік Савецкага Саюза: Дзяржаўны акадэмічны мужчынскі хор Эстонскай ССР пад кіраўніцтвам Густава Эрнесакса (сярод дасягненняў гэтага калектыву — удалыя гастролі па краіне і за мяжой, шматлікія запісы на пласцінках — Палестрына, Бах, Ласо, Гайдн, Гендэль, Шуберт, Глінка, Танееў, Грыг, Чайкоўскі, Вебер, Бетховен, Ліст, Сметана, Сібеліус, Шастаковіч, Гліэр); Каракскі нацыянальны ансамбль „Мэнго“, здзівіўшы і заваяваўшы сваім мастацтвам французскую і амерыканскую публіку. Удзельнічалі ў фестывалі вядомая „мадам Батэрфляй“ — Марыя Біешу; слаўны выканаўца танцаў народаў свету Махмуд Асамбаеў; адзін са старэйшых прапагандыстаў класічнай і савецкай ансамблевай музыкі — заслужаны калектыў Арменіі Дзяржаўны квартэт імя Камітаса.

Уявіце сабе прытульную залу філармоніі. Над сцэнай — эмблема: залацісты асенні лісточак і дзве ноты — чырвоная і зялёная — колеры беларускага нацыянальнага сцяга. Стройныя трубы аргана (ён быў сканструяваны чэхаславацкімі сябрамі) расквечаны вясёлкай каляровых пражэктараў. Урачыстае ўступленне фанфар — і загучала „Святочная уверцюра“ Шастаковіча. Так пачынаўся ў Мінску першы канцэрт „Беларускай музычнай восені“ 1979 года. У яго праграме прынялі ўдзел адзін з вядучых калектываў рэспублікі Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР, слаўная Акадэмічная руская харавая капэла імя Юрлава, маскоўскія салісты. Зноў парадавала сваіх паклоннікаў салістка беларускай оперы, народная артыстка Савецкага Саюза Святлана Данілюк, якая незадоўга перад гэтым вярнулася з Братыславы, дзе разам з інтэрнацыянальнай групай спевакоў і музыкантаў удзельнічала ў выкананні „Пасій па Матфеі“ Баха.

**(Працяг на стар. 4)**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“**

**З дубам у гербе ● Давялося жыць багата ● Толькі адно пытанне ● Міхалоўская моладзь у наступленні ● Свята бельскіх „Васілёчкаў“ ● Як цяля жыццё выратавала ● Дзядзька Квас малоціць ● Рэкруцкія і салдацкія песні ● Весткі з Сямяціч, Орлі, Раек, Трасцянкі, Крываціч ● Калі сніцца, што ты мыеш рэдкія валасы ● Чаго плача Кастусь ● Песня „Тече вода каламутна“.**

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 17 II** — 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek — Gazda z Diabelnej — odc. 2. 10.20 Antena. 10.45 Czas odnaleziony — film dok. jap. 11.45 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Polska pieśń żołnierska. 13.30 Tryptyk himalajski. 13.50 Teatrzyk piosenki. 14.20 Koncert życzeń. 15.00 Losowanie dużego lotka. 15.15 Gram dla... — teleturniej. 16.00 Wulkany świata. 17.00 Tele-Echo. 18.10 Decydujący front — Wyzwolenie Ukrainy — radz. film dok. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 W słońcu i w deszczu — odc. III pt. „W szachu" — film TP. 21.35 Operowe Qui pro Quo.

**Poniedziałek 18 II** — 12.45 TTR i RTSS — Fizyka, sem. IV. 13.25 Wskazówki metodyczne, sem. IV. 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Nauczanie początkowe, kl. III J. pol. 16.00 Obiektyw. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.00 Śmierć karpia — komedia obyczajowa prod. CSRS. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Telewizji — August Strindberg — „Panna Julia". Wyst.: Maja Komorowska, Roman Wilhelmi, Jolanta Lothe. 22.00 Horyzont — „Pogrobowcy" — ukazanie ruchów neofaszystowskich w RFN. 22.30 Dziennik.

**Wtorek 19 II** — 6.00 TTR i RTSS — Fizyka, sem. IV. 6.30 Wskazówki metodyczne, sem. IV. 11.05 Język polski — kl. II lic. 12.00 Fizyka, kl. VI. 12.55 Fizyka, kl. VII. 13.25 TTR i RTSS — Matematyka, sem. II. 14.00 Chemia, sem. II. 15.25 Program dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Młodych. 17.00 Sonda. 17.25 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.00 Królik Bugs przedstawia — animowany film USA. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Monsieur — film fab. franc. 22.05 Camerata. 22.30 Dziennik.

**Środa 20 II** — 6.00 TTR i RTSS — Matematyka, sem. II. 6.30 Chemia, sem. II. 11.05 Dla szkół — Historia, kl. VII. 12.00 Wychowanie plastyczne kl. VII—VIII. 12.45 TTR i RTSS — Matematyka, sem. IV. 13.25 Mechanizacja rolnictwa, sem. IV. 14.30 W drodze do nowego. 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Matematyka, kl. V. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Skakanka. 16.55 Losowanie małego i express lotka. 17.05 Dom i my. 17.20 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.30 W Teatrze przyrody. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Schroniska dla zwierząt — film fab. ang. 22.10 30 minut z architekturą. 22.40 Dziennik.

**Czwartek 21 II** — 6.00 TTR i RTSS — Matematyka, sem. IV. 6.30 Mechanizacja rolnictwa, sem. IV. 11.05 Dla szkół — Język polski, kl. III lic. 12.00 Język polski, kl. VII. 12.55 Język polski, kl. IV. 13.25 TTR — Hodowla zwierząt, sem. II. 14.00 Mechanizacja rolnictwa, sem. II. 15.25 Program dnia. 15.30 Turniej zastępowych. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC oraz „Szaleństwo Majki Skowron" — film TP. 17.30 Skarbiec. 17.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Patrol. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Powrót świętego — odc. „Pojedynek w Wenecji" — ang. film krym. 21.25 Pegaz. 23.10 Dziennik.

**Piątek 22 II** — 6.00 TTR — Hodowla zwierząt, sem. II. 6.30 Mechanizacja rolnictwa. 11.05 Wychowanie obywatelskie kl. VII. 12.00 Wychowanie obywatelskie kl. VIII. 12.45 TTR — Uprawa roślin, sem. IV. 15.10 Redakcja szkolna zapowiada. 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Psychologia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Magazyn motoryzacyjny. 17.20 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.15 Czterdziestolatek — odc. IV pt. „Portret czyli jak być kochanym" — film TP. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Potyczki rodzinne — teleturniej. 21.45 Twój współczesny — „Odpocznij w biegu" — film fab. CSRS. 23.10 Dziennik.

**Sobota 23 II** — 6.00 TTR — Hodowla zwierząt, sem. IV. 6.30 Uprawa roślin, sem. IV. 7.00 Historia, sem. II. 7.30 Fizyka, sem. II. 11.05 Przysposobienie obronne kl. VIII—I lic. 12.00 Program dla kl. IV. 12.45 Program dnia. 12.50 Radzimy rolnikom. 13.00 Wojskowy film dok. — Armia wolności i pokoju. 14.00 Obiektyw. 14.20 Dziennik. 14.30 Orbita. 15.00 Studio — 8. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Studio — 8 c.d. (js)

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 15 II** — 6.50 Na zimowej olimpiadzie. 7.40 Film fab. 8.50 Na zimowej olimpiadzie. 13.30 Na zimowej olimpiadzie. Hokej. 15.15 Film fab. 17.10 Hokej. ZSRR — Holandia. 19.45 Na zimowej olimpiadzie. 21.20 Śpiewa A. German.

**Sobota 16 II** — 6.50 Na zimowej olimpiadzie. 12.05 Teatr literacki. 14.40 Koncert życzeń. 15.25 Nie do wiary. 16.25 Koncert. 18.00 Na zimowej olimpiadzie. Jazda figurowa. 19.45 Na zimowej olimpiadzie. 20.00 Koncert.

**Niedziela 17 II** — 6.50 Na zimowej olimpiadzie. 12.00 Film fab. 13.05 Hokej. Kanada — Finlandia. 15.00 Klub podróżników. 16.00 Panorama międzynarodowa. 19.30 Na zimowej olimpiadzie. 19.45 Hokej. ZSRR — Polska.

# КІНО

**Białowieża** Tak szalona, że może zabić — fr. 19—20. Wierna żona — fr. 21—22. W cieniu legendy — węg. 23—24.

**Bielsk Podl.** Ukochana żona — wł. 18. Róg Brzeskiej a Capri — pol. 19—20. Milczący wspólnik — kanad. 21—22. Taczanka z południa — radz. 23—24.

**Czeremcha** Mandingo — wł. 19—20. Swój wśród obcych, obcy wśród swoich — radz. 23—24.

**Czyże** Ciepło — buł. Serpice — wł. 20—24.

**Gródek** Sandakan — jap. 23—24.

**Hajnówka** Pełnia — pol. 18—20. Niezamężna kobieta — USA 21—22. Okupacja w 26 obrazach — jug. 23—24.

**Michałowo** Nie strzelać do nauczyciela — kanad. 19—20. Pocałunki z Hongkongu — fr. 21—22. Nie wychylać się — jug. 23—24.

**Mielnik** Południk zero — pol. 20. Azyl — pol. 23—24.

**Milejczyce** Sabina Wulff — NRD. Szalone dni — jug. 20—24.

**Narew** Rozdroża — rum. Test Pilota Pirxa — pol. 20—24.

**Narewka** Gdziekolwiek jesteś panie prezydencie — pol. Jenny i Toby wśród dzikich zwierząt — USA 20—24.

**Nurzec** Pociąg w śniegu — jug. 19—20. Cygańska miłość — buł. 21—22. Klincz — pol. 23—24.

**Orla** Autostopowicz — czes. Do krwi ostatniej — pol. 20—24.

**Rajsk** Kryjówka — NRD. Nocne widma — ang. 20—24.

 

# Сямейная сустрэча

(Працяг са стар. 1)

нібы аратыя, апрацоўваюць ніваўскую глебу, у якую зёрнамі сеюць свае публікацыі ды дабіваюцца ўсё лепшага і лепшага ўраджаю.

Сёлетні з'езд адбыўся ў чацвер, 24 студзеня, у будынку рэдакцыі, у прысутнасці галоўнага рэдактара і журналістаў. Перад сабраўшыміся 22 асобамі выступіла В. Валкавыцкая і адкрыла з'езд ацэначнай прамовай. Шырока і змястоўна праанапізавала вынікі гадавой працы „ніваўскай карэспандэнцкай грамады". Самае галоўнае, над чым спынілася — гэта ацэначны крытэрый пры вылучэнні найлепшых карэспандэнтаў года. І ў гэтым годзе кіравалася таксама колькасцю. Дэвіз быў: пісаць коратка, але добра; быць актыўным, ісці за словамі Антона Чэхава: „Краткость — сестра таланта". Правяла яна кароткую характарыстыку матэрыялаў розных карэспандэнтаў, намякнула на гледзець тэму: адкуль такая цесная сувязь паміж рэдакцыяй і карэспандэнтамі?!

— Я пішу, бо такая ў мяне патрэба. Але самае важнае, калі не адбіраюць у цябе ахвоты да пісання. А тут у рэдакцыі такая добразычлівасць. Занясеш матэрыял. Ведаеш, што часам ён слабы, але галоўны рэдактар параіць, дапаможа, выправіць. І атмасфера тут такая хатняя — гаворыць.

Галоўная праблема, над якой доўга і шырока дыскутавалі, гэта была крытыка. Жалезная тэма кожнага з'езду. Якой жа павінна быць гэта крытыка? З цікавымі словамі выступіў Уладзімір Сідарук.

— Трэба тут аддзяліць дзве розныя справы — крытыку ад шкалявання. Крытыкаваць трэба, але ніколі шкаляваць. У праўдзе заўсёды ёсць пункт аднясення і там ніхто нам нічога не закіне, — сказаў.

Многа гаварылі і пра паспяховасць мадапамозе, парадах. Каб адзін другому ўказваў яго недахопы і памылкі.

— Вораг, выявіўшы вашыя памылкі, карысьнейшы вам, чым ваш прыяцель, які маўчыць, — прывёў Кастусь Пятэльскі словы Леанарда да Вінчы.

Шматлікае месца ў дыскусіі адвялі роднай мове. Каб шанаваць і любіць яе, каб тыя словы, якія сее „Ніва", далі плён. Нельга саромецца мовы, якую ўзялі мы ад бацькоў, на якой яны вучылі нас пазнаваць свет, пры дапамозе якой узбагачвалі нашыя душы.

— Чаму навучыўся, таго на плячах не носіш, — прывёў словы народнай прыказкі Анатоль Антанюк з Давідавіч.

— І чужое трэба знаць, і свайго не забываць, — папоўніў Хведар Хлябіч.

Наступная справа — гэта пашырэнне магчымасці друку. Колькаснае параўнанне матэрыялаў паасобных гадоў паказвае на пастаянны рост. Ці будзе дзе друкаваць? Ці хопіць месца? Справу пакрысе выратыла рэдактар „Зоркі" Яніна Чэрнякевіч, падсоўваючы думку, што ёсць жа і газета для дзяцей. Чаму тады карэспандэнты не могуць пісаць і для дзяцей?

Прааналізавалі таксама і справу школьніцтва ды давозу дзяцей. што



Карэспандэнт года — Мікалай Панфілюк.



Васіль Петручук — прадстаўнік Беластока.



Тамаш Кірылаў ехаў на з'езд аж 17 гадзін.

некаторыя праблемы, даючы гэтым самым уступ да дыскусіі.

У гэтым годзе не было розніцы ва ўзнагародах найлепшым. Усім траім прызналі аднолькавыя. А гэта было паказчыкам таго, што ўсе матэрыялы аднолькава вартасныя і па-свойму добрыя — і кароткія інфармацыі, і шырокія артыкулы. Аднолькавасць узнагарод з'яўляецца папаўненнем ацэначнага крытэрыю. А іх сімвалічнасць у доказ таго, што нашыя карэспандэнты кіруюцца не матэрыяльнай карысцю. За пошукі і форму прызналі дыпломы. І так: У. Сідаруку за „Казкі для дарослых", П. Байко за белавежскія запісы, Б. Рудкоўскіну за „Запіскі натураліста" і В. Петручуку за фельетоны „З маёй званіцы". Апрача гэтага, усяму авангарду раздалі кніжныя ўзнагароды.

Пасля ўступнай і афіцыяльнай часткі голас узялі карэспандэнты. Распачалася дыскусія. Першым выступіў Аляксандр Закройшчык адносна крытэрыяў ацэнкі. Падсунуў ён думку, каб за зыходны пункт браць ганарары за артыкулы і інфармацыі. Гадавы падлік паказаў бы пераможцу. Потым слова ўзяў В. Петручук, які паспрабаваў раз-крытыкі, аб адказах. І наогул: што крытыкаваць? Ці адразу ўжо пісаць аб тым, што недзе там не гарыць святло, або пабітая шыба? Здараецца так, што пакуль матэрыял паявіцца ў друку, а ў тыднёвіку цыкл доўгі, дык усё выправіцца і інфармацыя стане неактуальнай. Можа пры такіх дробных справах лепш было б спачатку звярнуцца да адпаведных улад ці адказных за гэта, а да крытыкі звяртацца тады, калі не паможа размова.

— Вы тут гаворыце пра крытыку, пішаце крытычныя інфармацыі, паказваеце цёмны бок, — гаворыць Тамаш Кірылаў. — А ў мяне ўсё, што беларускае — гэта добрае. Вы тут разам. Я далёка. З адлеглай Легніцы ехаў я сюды аж семнаццаць гадзін і зараз вельмі шчаслівы, што ў рэдакцыі. Тут пахне радзімай, блізкім. У мяне кантакты і з Францыяй, і з Амерыкай, і з Германіяй і ўсюды я хвалю беларусаў за іх культуру і дабрату.

Аднachасова выйшаў ён з цікавай прапановай, каб наладзіць сустрэчу землякоў.

Закранулі таксама справу міжкарэспандэнцкай рэплікі. Гаварылі аб узаевельмі шырока раскрыў Валянцін Семянюк і папоўніў Міхась Матвеюк, і падрыхтоўку новых карэспандэнтаў, аб чым гаварыў Іван Кірызюк. У дыскусіі ўдзельнічалі таксама і журналісты. Усе ж мы адна сям'я пад ніваўскай страхой.

На заканчэнне выступіў галоўны рэдактар Георгі Валкавыцкі, які акрэсліў свае адносіны да галоўных праблем, якія вынікалі з дыскусіі — пашырэння старонкі, крытыкі і крытэрыяў ацэнкі.

— Карэспандэнцкія матэрыялы паяўляюцца не толькі на сёмай старонцы, але выходзім мы з імі і на іншыя, — гаварыў ён. — Большыя паяўляюцца нават на першай. Няма ў нас падзелу і абмежавання, што тут журналіст, а тут карэспандэнт.

А адносна крытыкі заявіў, што трэба так пісаць, як падказвае жыццё, абставіны і сумленне. Крытыка павінна быць прынцыповай і сумленнай.

— Што датычыцца ацэнкі, — сказаў, — дык, бадай, найлепш браць пад увагу актыўнасць. І ўсім вам жадаю актыўнасці.

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара

# Якія мы людзі

## ЖЫЦЦЁ МЯНЕ ВУЧЫЛА...

Васіль Петручук даў добрую думку да дыскусіі. Тэма сапраўды цікавая. Толькі баюся, што выніку нельга па ёй спадзявацца ў 100 працэнтах. Бо ці можа нешта змяніць наша гаворка ў рысах характару п'яніцы, злодзея, халтуршчыка ці гультая? Мне здаецца, што не.

Будучы юнаком, многа працаваў я ў маладзёжных арганізацыях: ЗМВ, ЛПЖ (пазней ЛОК). Разгортваў культурную дзейнасць, аматарскі рух. Мелі мы поспехі. Пазней уступіў у рады ОРМО. Мне тады здавалася, што сваім вопытам і паводзінамі дам добры прыклад сваім калегам, а нават старэйшым жыхарам вёскі. Не ведаў яшчэ тады, што гэтым не заваюю сабе давер'я, а нажыву ворагаў. Калі зразумеў, позна ўжо было. Але пакажу факты.

Вуліца Кузавы была даўней (да 1960 г.), можна сказаць, непраездная. З боку Чаромхі-станцыі пяску было па калена, а пасярэдзіне вёскі можна было месцамі тапіцца ў балоце. Многа гаварылася на вясковых сходах аб пабудове новай дарогі. Многа гаварылася, а нічога не рабілася. Пачалі мы справу варушыць у сваім гуртку ЗМВ (я тады быў старшынёй). Зайшоў я да солтыса Пятра Саўчука і кажу: „Будуем новую вуліцу. Я афармлю ўсё з трактарамі ў Гайнаўцы (сам я тады працаваў у Гарадской радзе), а вы памажыце знайсці работнікаў".

І пайшлі мы ад хаты да хаты пытацца, ці нехта выйдзе на грамадскі пачын, а калі так, дык няхай падпіша нам спісак, быццам абавязацельства. І так мы прайшлі ўсю вёску. За два тыдні навазілі жужалю на ўсю дарогу. А калі некалькі гадоў пазней пачалі вяртацца да той справы (быццам мая тут нейкая заслуга), адзін з гаспадароў сказаў: „Ён тады смаркачом быў, мы гэта зрабілі..."

Працуючы ў Семяноўцы на ПКП, мне давялося яшчэ глытнуць не адну горкую галушку. З першых дзён мяне назначылі „дахадзэнёвым". Да маіх службовых абавязкаў належала вядзенне расследаванняў за адсутнасць у працы, за пакражы, п'янства і г.д. У час выконвання сваіх службовых абавязкаў, давялося мне сутыкнуцца з рознымі людзьмі, а найчасцей з тымі, хто парушаў законы. У размовах з імі я намагаўся заўсёды тлумачыць, што яны дрэнна робяць, што такой дарогай далёка не зойдуць. Не змог я аднак пераканаць іх, не накіраваў іх на дарогу дабрачыннасці. У іх вачах я заўсёды быў ворагам „нумар 1". А ўсе астатнія працаўнікі паўтаралі так: „Дабіўся да ўлады і выжываецца, ордэн хоча атрымаць..."

Праз некалькі год я яшчэ раз паспрабаваў выкарыстаць свой вопыт у грамадскай дзейнасці ў радах ОРМО. Не трэба, пэўна, нікому тлумачыць, што гэта за арганізацыя і якую ролю павінна выканаць у асяроддзі. Я разумеў добра задачы. Хацеў, каб і іншыя зразумелі. 10 гадоў змагаўся ў сваёй місіі, не шкадуючы ні свайго вольнага часу, ні вопыту і добрых парад. Усё надарэмна. Не зразумелі мяне не толькі людзі з „маргінэсу", не зразумелі нават калегі — члены ОРМО. І хоць зараз адсутнічаю ў армоўскай дзейнасці, мянушка „закалёны ОРМОвец" асталася пры мне. А ўсё гэта таму, што па сапраўднай дарозе, дарозе праўды хацеў ісці.

Паказаў я толькі тры факты. А такіх фактаў можна прыводзіць дзесяткі, сотні. І кожнаму з нас гэта трапляецца, кожны ведае, што нешта не так робіцца ў працы, у асяроддзі, нават у сваёй уласнай хаце. Бо ці можа так быць, што дэфіцытны тавар можна атрымаць толькі з-пад прылаўка па знаёмству, што афармленне нейкай простай справы патрабуе знаёмства ці „пляшкі", што ёсць сярод нас многа паразітаў грамадства, якім патаемны гандаль гарэлкай і здзіранне з чалавека па 150-200 зл. за бутэльку з'яўляецца справай нармальнай, што прадаўцы ў крамах абкрадаюць нас на вазе, касіры на грошах, што на кожным прадпрыемстве, у кожным асяроддзі трапляюцца

(Працяг на стар. 5)




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА LX

Насуперак Бярозку, які запярэчваў існаванню залежнасці паміж народнымі казкамі і „Казкамі жыцця" Я. Коласа літаратуразнавец Пшыркоў сцвярджае наступнае: „Фарміраванне жанра беларускага апавядання адбылося пад вялікім і непасрэдным уздзеяннем вуснай народнай творчасці, галоўным чынам пад уплывам казкі. Народная казка мае ўсе тыя элементы (займальны сюжэт, майстэрства апавядання і характарыстыкі дзеючых асоб, вобразная паэтычная мова і г.д.), якія так неабходны апавяданню. „Казкі жыцця" ўзніклі на багатых традыцыях вуснай народнай паэзіі. Многастайныя выяўленчыя прыёмы паэтыкі фальклору Якуб Колас даводзіць да мастацкай дасканаласці, творча перапрацоўвае ў адзін паэтычны сплёт і стварае сваю ўласную паэтыку, якая сваім ладам нагадвае паэтыку фальклора, але адрозніваецца ад яе ступенню паэтычнага майстэрства".

З прыведзенай цытаты бачым, што Пшыркоў бачыць непасрэдную сувязь паміж народнымі казкамі і „Казкамі жыцця" Якуба Коласа і што розніцу паміж імі зводзіць толькі да „ступені паэтычнага майстэрства".

Хто затым праў: Бярозка, які гаворыць, што „Казкі жыцця" не маюць нічога супольнага з народнай прозай, ці Пшыркоў, для якога гэтыя два тыпы твораў арганічна звязаны?

Вельмі часта бывае, што ў людзей, якія крайне і катэгарычна выказваюцца аб нейкай матэрыі, у аднолькавых дозах праяўляецца праўда і няпраўда. У кожным выпадку можам гэта сказаць аб Бярозку і аб Пшыркове. Памылка абодвух крытыкаў заключаецца ў тым, што яны коласаўскія алегарычныя апавяданні патрактавалі як адну цэласць, тады, калі гэтыя творы такой цэласці не прадстаўляюць.

„Казкі жыцця" абавязкова трэба падзяліць на некалькі груп. І так два творы з алегарычнага цыкла: „У балоце" і „Кажух старога Анісіма" з'яўляюцца па сутнасці рэалістычнымі апавяданнямі і, калі б яны не былі змешчаны ў томе алегарычных казак, бадай нікому з крытыкаў не прыйшла б у галаву думка залічаць іх у лік алегарычных твораў, ды дашукоўвацца ў іх сімвалаў і падтэкстаў. У адрозненне ад іншых алегарычных навел героямі названых твораў з'яўляюцца рэальныя чалавечыя постаці, якія дзейнічаюць у даволі звычайных бытавых абставінах. Па сутнасці і адзін і другі твор належыць да гумарыстычнай прозы, асновай якой з'яўляецца сітуацыйны камізм і камізм характараў. У ніякіх іншых творах Коласа з цыкла „Казкі жыцця", утрыманых, як вядома, у настроі філасофскага задумення і спецыфічным эмацыянальным клімаце, не выступаюць тыя рысы зместу і формы, якія акрэслілі характар твораў „У балоце" і „Кажух старога Анісіма". І таму, нягледзячы на тое, што некаторыя крытыкі знайшлі „алегорыі" і „сімвалы", нібыта выступаючыя ў гэтых апавяданнях, нельга іх залічыць да апавяданняў алегарычных, а факт іх змяшчэння ў гэтым цыкле трэба лічыць як нешта незразумелае і выпадковае.



 

# ТРЫБУНА чытачоў

# З'ЕЗД і ПАСЛЯ З'ЕЗДУ

## СУСТРЭЧА, ЯКІХ МАЛА

Вось мінуў чарговы з'езд карэспандэнтаў. Хачу сказаць, што ў гэтым годзе мне вельмі ён спадабаўся, а перш за ўсё атмасфера сардэчнасці і сяброўства. На гэтую тэму напішуць, напэўна, журналісты, я крану нешта іншае.

У мінулыя гады на з'езд прыязджалі людзі маладыя, пераважна вучні сярэдніх школ Бельска і Гайнаўкі. Нас, старэйшых, было мала. А зараз? Зараз усё адмянілася. Супрацоўнічаць з „Нівай“ сталі людзі розных прафесій і розных узростаў, ды не толькі з Беласточчыны, а і з многіх іншых гарадоў нашай краіны таксама.

У гэтым годзе я меў магчымасць пазнаёміцца з новымі сваімі калегамі, з якімі дагэтуль быў знаёмы толькі праз „Ніву“. І цешыцца трэба, што наш ніваўскі авангард — гэта адна дружная сям'я. „Ніва“ нас з'яднала ў адну грамаду! Вось прыклад: Тамаш Кірылаў прыехаў аж з Легніцы. Гэты чалавек паставіў свае першыя крокі на старонках нашага часопіса нядаўна, а на з'ездзе даказаў, як дорага цэніць сапраўднае сяброўства, і таму з ім хутка знайшлі мы ўсе супольную мову. Сябры з Нараўкаўскай гміны запрасілі яго да сябе ў госці. А вось Грыша Мароз, Васіль Петручук, дзядзька Фёдар (аўтар ніваўскіх вершаў), сябра Семянюк з Райкаў. Кампанія на славу, адным словам! Не хапіла толькі нам Э. Вайсковіча. Шкада, што не прыехаў. Шкада таксама, што такіх сустрэч у нас бывае малавата.

**У. Сідарук**

## ПАРА БРАЦЦА ЗА РАБОТУ

Ну, вось і прайшоў з'езд. Пара брацца за работу. А яе кругом хоць адбаўляй. Так думаючы, я ледзь не мінуў свайго панадворка, ідучы з цягніка. Толькі голас жонкі вырваў мяне з задумы. Хадзі, хадзі, ледзь цябе дачакалася.

Ведаеце, чакала мяне на вуліцы! Ну, расказвай, як там было? Дык хаця дазволь зайсці ў хату, кажу, распрануцца. А ведаеш? Ёсць што гаварыць.

Відаць задаволены, што паехаў, весела гаворыць яна. І то як, кажу, вельмі рады!

А цяпер ужо прызнаюся. Ехаў і не ехаў. Сам не ведаў, што пачаць. А як там будзе? Як сустрэнуць? Нікога ж не ведаю. Я ж навічок. Думаю, мо так сустрэнуць, як тыя, што на вяселле запрашалі. Гаварылі: прыязджайце, прыязджайце, а ў духу: дай Бог, каб дождж пайшоў... А знаеш, як сустрэлі мяне? Вельмі шчыра. З душой. Так, як толькі ўмеюць беларусы, гасцінна. Даволі ўбачыць прыемную, шчырую ўсмешку на твары сустракаючага, і тады на душы робіцца весела і не шкадуеш, што апынуўся сярод такіх людзей. Ведаеш, міленькая, так сустрэла мяне Вера Валкавыцкая. А чалавека можна ацаніць хутка і ведаць, чаго ад яго спадзявацца. Ну, думаю, трапіў я ў добрую гасцінную сям'ю. Не буду шкадаваць, што прыехаў.

Так яно і выйшла. А якіх сустрэў калег! З некаторымі пазнаёміўся. Аднавіў старое знаёмства. Абгаварылі нуртуючыя нас праблемы. А ты ж браў голас, нервуецца жонка. А не так адразу, кажу. А ведаю, ведаю, ты заўсёды нясмелы. Ды пільна я слухаў кожнае выступленне таварышаў. Гаварылі яны аб справах, якія і мне цікавыя. Знаеш, матаў усё на вус. На той, што не маеш, перабіла жонка. Не цяжка ж яго мець. Як хочаш, загадую не то вусы, а і бараду, як раіў Петручук. Ну, здурнеў, здурнеў на старасць! Лепш валасы сабе купі, папракнула жонка. Можа й на цябе тады якая глянула б. Ну, перастаньма, а то чаго добрага і паспрачаемся. Лепш гавары, што далей было, просіць мяне. Што было? Пытаеш — адкажу. Так хутка час праляцеў, што шкада было ад'язджаць. І ведаеш? Цяпер, калі толькі буду ў Беластоку, абавязкова загляну ў рэдакцыю. Таму што ведаю — там сустрэнуць мяне мілыя, добрыя людзі, сябры! І пасля з'езду рашыў: трэба пісаць, не пакідаць. А вынік працы ацэняць людзі і сябры з „Нівы“.

Ну, пішы, пішы, не сунімаецца мая палавіна. Толькі найперш пайдзі прывітайся з кароўкай. Я ж яе не накарміла. Ну, думаю, вось такія то нашы, вясковыя справы. Бяру шапку і іду далей таптаць, а прыемныя думкі аб з'ездзе носяцца па галаве.

**Г. Мароз**

## ПІСЬМО З САНАТОРЫЯ

Сёння атрымаў я пісьмо з дому, у якім мае мне пішуць, што 24 студзеня адбудзецца з'езд карэспандэнтаў „Нівы“. Шкадую, што не ў лютым. У студзені, да 29-ага, знаходжуся ў санаторыі ў Налэнчове. А так хацелася мне быць на з'ездзе! Так хацелася, што прасіў дырэктара санаторыя, каб даў пропуск. Не даў.

І так, дарагія сябры карэспандэнты! Шлю вам шчырыя прывітанні!

Віншую цябе, Мікалай Уладзіміравіч Панфілюк, з першым месцам і разлічваю на тое, што ў наступным годзе яго ўтрымаеш.

Адносна мяне. Абы толькі здароўе было, дам столькі артыкулаў у „Ніву“, што аж за галаву возьмецеся! Але ўсё гэта перад намі.

Як кожны год, так і на гэтым з'ездзе ёсць карэспандэнты, якія апынуліся ў нашай сям'і першы раз. Таму я, як найстарэйшы па ўзросту карэспандэнт, заахвочваю вас: бярыцеся крэпка за пяро і пішыце, пішыце, як найбольш у нашу „Ніву“.

Папулярнасць „Нівы“ ў нашым асяроддзі вялікая, яна ж закранае ўсе нашы праблемы і змяшчае многа крытычных артыкулаў з усіх нашых вёсак і мястэчак.

Журналісты не могуць быць усюды. Вялікую работу для „Нівы“ робім мы — карэспандэнты! І лік карэспандэнтаў не закрыты. Можа ім быць кожны сумленны грамадзянін.

А добра было б, каб наша „Ніва“ мела сваіх карэспандэнтаў у кожнай гміне Беласточчыны!

**Э. Вайсковіч**

## ПІШЫЦЕ Ў „НІВУ“!

Паважаныя сябры карэспандэнты! Сабралася сёння наша дружная сямейка, каб раз у год пабыць хоць хвілінку разам. Усе мы належым да людзей працавітых у гэтай сямейцы, бо хоць выконваем сваё штодзённае галоўнае заданне, з якога ямо хлеб, мы яшчэ знаходзім час пісаць у „Ніву“ пра нашы радасці і смуткі. Мы яшчэ знаходзім час пісаць у наш родны тыднёвік. А таму ён родны, што пішацца на той мове, якой нас навучыла маці.

Праглядаючы трэці нумар „Нівы“ — падлік працы нашых карэспандэнтаў, трэба сказаць, што некаторыя з нас моцна працавітыя. Чэсць ім і слава! Возьмем М. Панфілюка — 122 публікацыі, Э. Вайсковіча — 77, У. Сідарука — 72, П. Байко — 38, а яго публікацыі цікавыя, абшырныя. Гэта сапраўдны пясняр Белавежы. Сам факт, што мы пішам у „Ніву“, сведчыць аб тым, што хочам, каб не загінула наша родная мова.

Паяўляюцца часта на старонках „Нівы“ крытычныя публікацыі. На мой погляд, хто ўмее справядліва крытыкаваць, той патрапіць і добра пісаць. Крытыка памагае ўбачыць свае недахопы. А хто ж іх не мае? Крытыка дасканаліць наша штодзённае жыццё. Крыўдаваць, па-мойму, нельга, калі нават нехта і моцна кагосці скрытыкуе. Вялікі геній чалавецтва італьянец Леанарда да Вінчы сказаў: „Працаўнік, выявіўшы вашы памылкі, карыснейшы для вас, чым прыяцель, які іх скрывае“.

На заканчэнне я, бо ўжо можа не дажыву да наступнай сустрэчы або не заслужу, каб быць запрошаным, разлянуюся або расхварэюся, прашу вас, не пакідайце нашай вялікай місіі. Пішыце ў родную „Ніву“, на роднай мове, пра ўсё роднае.

**Дзед Кастусь**

## НЕ ХВАРЭЙЦЕ, ЯК Я!

Паведамляю, што не змагу прыехаць на з'езд. І адразу хачу напісаць, якая прычына. Жыву толькі з жонкаю, а жонка зламала нагу. Ад лістапада — у гіпсе. Так што нічога не можа рабіць і ўсё на маёй галаве. А ёсць дзве кароўкі, парсюк, куры і ўсё трэба дагледзець, як у гаспадарцы. Але ж гэтага замала. На бяду і я захварэў. У грудзях баліць, быццам хто нажом рэжа. Лекар прыпісаў лекі, ды мала памагаюць. Боль не праходзіць, не магу паварушыцца. Вось бяда, хоць танцуй, ды слабы танец. Як кажуць — свінні не да парасят, калі яе смаляць.

Шаноўная пані Вера, як толькі хоць трошкі ачуняю, то прыеду, бо хочацца пабываць у вас, паслухаць аб чым людзі гаварылі ў дыскусіі. Сёння вам хачу крыху расказаць, як я, паехаўшы ў Савецкі Саюз, шукаў кніжку Янкі Маўра, тамы, 1, 2 і 4, бо 3 маю ад вас. Пабываў у Гродне, Валкавыску, Мінску і ў іншых гарадах і нідзе не купіў. Усе казалі, што была ды няма. Дык я сабе на памятку купіў кніжку „Чужая бацькаўшчына“ В. Адамчыка. У ёй расказваецца пра падзеі ў вёсцы напярэдадні вялікіх перамен. У цэнтры рамана вобраз маладой жанчыны, якая, застаўшыся ўдавой, хоча знайсці сваё каханне, але па сутнасці губіць сваё жыццё.

А так усё аўтар дакладна патрапіў апісаць, што найдрабнейшага здарэння не прамінуў. Чытаючы, проста перажываеш тое, што напісана. Трэба сказаць, што ўсе беларускія кніжкі, якія мне давялося чытаць, цікава і дакладна апісваюць жыццё.

Калі вы запланавалі ўручыць мне нейкую кніжную ўзнагароду, дык не спяшайцеся пасылаць па пошце. Як выздаравею, то прыеду да вас. Пакуль бывайце здаровы, не хварэйце, як я!

**Э. Шчасновіч**

## АЖ РОТ РАЗЯВІЎ

Калі я атрымаў запрашэнне на з'езд карэспандэнтаў „Нівы“, прачытаў яго з вялікім хваляваннем, бо варта прызнацца, што сапраўды я яшчэ на такім сходзе то і не бываў. І паверце, даражэнькія, што чакаў гэтага моманту, як рэдка чаго ў жыцці. І дачакаўся. Устаў у пяць гадзін раніцы. Хутка за мною ўстала і жонка. Выдала мне загады, а сама пайшла даіць кароў. Я наскрабаў бульбы на аладкі, распаліў пад плітой і ўжо хацеў збірацца, як жонка тупнула нагой і голасна заявіла: накармі кароў, яшчэ паспееш. Ну, думаю сабе, калі трэба, дык трэба і пайшоў. Адчыніў клуню, набраў сена і панёс каровам. Толькі адчыніў абору, а мая рабая, што бацька з НБЦ, з хлява на мяне ходу. Тут мяне і ўзяло. А ў галаву прымаўка прыйшла, што калі жонка і карова на цябе, дык канец жыццю.

Прыйшоў у хату амаль з плачам. І гавару жонцы: ад сённяшняга дня я бульбы чысціць табе не буду. Я паеду на з'езд і да цябе не вярнуся. А яна да мяне: паедзеш, паедзеш, ты глянь на гадзіннік. Божачкі, кажу, і адразу падумаў аб Карпавай Гапцы, знаёмай Грышы Мароза, якую снегам замяло. Засталося паўгадзіны да цягніка. А я яшчэ не брыты, боты не пачышчаны, гальштук не завязаны, не гаворачы аб карове, якую трэба было б загнаць. Схапіў вопратку, налажыў боты непачышчаныя, схапіў жменю аладак і ходу. Ужо быў на панадворку, як жонка выскачыла з хаты з торбачкай яек і загаласіла, што трэба занесці сваякам. Выскачыўшы з брамкі, я адразу ўключыў трэцюю хуткасць, а каб не тыя няшчасныя яйкі, дык уключыў бы і чацвертую. Каб хто ўбачыў, дальбо, сказаў бы, што гэты можа бегчы ў Маскву на алімпіяду. Аднак учапіўся я за хвост цягніка і даехаў.

А калі ўвайшоў у канферэнцыйную залу, то мне аж дух заперла. Як паглядзеў, дык усё карэспандэнты. А карэспандэнтак і на паказ няма. Ну, падумаў сабе, сапраўды, хоць дадому не вяртайся. Толькі так падумаў, у той момант увайшла адна, а потым яшчэ пяць. Вось і пытаю Міхася Хмялеўскага, хто гэта такая, а той на вуха мне шэпча: яе Верай завуць, добрая жанчына, дадае. Ну, і пачала яна гэты з'езд. Кажу вам, я аж рот разявіў, так уважна слухаў. А напрыклад, Ада Чэчута, маладая, а якая ў яе аграмадная скарбніца цёплых, вясёлых і жывых слоў. Проста слухаў бы дзень і ноч, і не еў бы. А зноў гэтая ад „Зоркі“, не памятаю прозвішча, якая яна сімпатычная і, відаць, добрая. Усім вам, дарагія жанчыны, жадаю поспехаў у развіцці беларускай мовы і ўсяго добрага ў сямейным жыцці.

А я вярнуўся дамоў. Папрасіў прабачэння ў жонкі, а калі расказаў аб з'ездзе, то на другі год жонка згадзілася сама кароў карміць.

**Валянцін Семянюк**

## З ПОЎНЫМ ДАВЕРАМ

Не ведаю, ці на кожным з'ездзе карэспандэнтаў „Нівы“ бывае такая дыскусія, якую я чуў 24 студзеня 1980 года. На мой погляд была гэта дыскусія людзей дарослых, творча заангажаваных і крытычных. Ніваўскі карэспандэнт — гэта чалавек з вялікім жыццёвым аптымізмам, высокай мараллю і асабістай годнасцю. Нічога і дзіўнага, што папулярнасць іх вялікая на старонках „Нівы“ і пастаянна расце.

А другая справа датычыць журналістаў „Нівы“. Я як карэспандэнт нашага часопіса, хачу сказаць, што гэта людзі сумленныя і добразычлівыя. Яны заўсёды стараюцца памагчы, падказаць, параіць. Яны, як могуць, падтрымліваюць нас у нашых частых хістаннях па розных прычынах. Не любяць яны, калі іх хваляць, таму на заканчэнне, як карэспандэнт, хачу сказаць толькі адно: я асабіста да рэдакцыі „Нівы“ маю поўны давер. І, думаю, не толькі я. Калі наш тыднёвік змог згуртаваць такую колькасць карэспандэнтаў, значыцца, усе яны давяраюць рэдакцыі.

**Васіль Петручук**

(Працяг са стар. 5)

## ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ СЛОЎ

быў я 8 чэрвеня 1958 года на першым з'ездзе „Белавежы“ і быў прыняты ў члены літаб'яднання, дзеля таго, каб разам з іншымі, такімі, як я, выляцець, як корак з бутэлькі шампанскага ў час „чысткі“ ў годзе 1965. Не дагаджала дактарам-магістрам такое сяброўства. Не маю таксама за гэта да іх жалю, бо гэты капняк быў нібы „падзяка за турботы“ („Ніва“ ад 1.11.66).

Хаця я як дзед маю права раіць малодшаму дзядзьку, але не буду карыстацца гэтым правам. Затое прашу вас, сейце на сваёй „палосцы“ разумнае, сейце добрае. Бо толькі добрае насенне дае добры плён.

**Дзед Кастусь**




„Ніва“ не прымае дымісіі з абавязку карэспандэнта. Крызісы ў нашым асабістым жыцці — нармальная рэч“. Гэта словы з артыкула „Карэспандэнт года“, „Ніва“ № 3/1980. Душэўны крызіс, калі ахопіць чалавека, тады ён можа страціць усё, ды і жыць яму не хочацца... Такі крызіс ахапіў і мяне. Яшчэ і сёння я адчуваю яго. Хачу на старонках „Нівы“ падзякаваць маім калегам-карэспандэнтам М. Панфілюку і П. Байко за пісьмы ды спагадлівасць майму гору. Асабліва падзякаваць хачу Дамініцы Івацік з Ахрымоў. Яна — з далёкага сяла, але так шчыра адгукнулася на мой упадак.

Нешта падобнае здарылася, ды пахіснула было нашага паважанага Дзядзьку Кваса. Калі я прачытаў яго развітальны верш, усхваляваўся да слёз. Бо тут упершыню я востра адчуў непарушныя: ч а с, м ы і „Н і в а“. Ды на шчасце ўсім нам, гэта быў толькі часовы занапад духу. Ваша „ўваскрасенне“, Дзядзька Квас, я сустрэў з вялікай радасцю. Асабіста лічу, што Дзядзька Квас не прыкмячае майго існавання. Але аднойчы і я папаў пад скібы яго палоскі. Ну, і вельмі добра! Выйшаў з узмоцненым духам! Дзякую за аналіз майго артыкула.

А што датычыць Т. Кірылава з Легніцы — я напісаў адгалоску са згодай на „Сустрэчу землякоў“. У друк не выслаў... Шматлікія справы даступныя толькі ў летуценні. Жаль — ды так яно ёсць.

Дамініка Івацік, ідзіце з намі доўга! Збірайце беларускі фальклор ды сказы. Упішацеся гэтым у гісторыю „Нівы“. Будзеце мець мэту ў жыцці.

Урэшце віншую нашых перадавых карэспандэнтаў за 1979 год: М. Панфілюка, Э. Вайсковіча і У. Сідарука!

Пішыце, слаўныя рыцары пяра! Няхай абмінуць вас усялякія крызісы! Мой паклон рэдакцыі „Нівы“.

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскін**

Імпартгумар

# ГРАБЕЖНІК

— Лары, Лары, я чую чыесьці крокі! — дрыжачы прашаптала жонка.

— Ммм? Якія крокі? — спрасонку прамармытаў муж і пазяхнуў. — Толькі я пачаў засынаць...

— Лары, хтосьці забраўся ў нашу кватэру! Напэўна, грабежнік... Прачніся ж, Лары!

— Мы ж не мільянеры, дарагая, што ў нас можна ўкрасці?

— Дык гэта ведаем мы, ён жа не ведае! Ой, Лары, во ён, у сталовай. Глядзі, у яго на твары чорная маска!

Убачыўшы ўзломшчыка, Лары, падобны ў сваёй паласатай піжаме на тыгра, скочыў на яго. Схапіўшы начнога наведвальніка за штрыфелі пінжака, ён усклікнуў:

— Ну, пачакай, валацуга! Цяпер ты ўбачыш, што цябе чакае! Сінтыя, — скамандаваў Лары, — вымі з шуфляды пісталет і накіруй на яго! Трымай яго на мушцы, пакуль я не адзенуся!

Сінтыя дрыжачымі рукамі навяла пісталет на грамілу. Лары спяшаючыся нацягнуў на сябе касцюм, потым, захінуўшы грабежніку руку за спіну, павёў яго да выхаду.

— Замкні дзверы, дарагая, — сказаў ён, — і спакойна лажыся спаць. Я пастараюся вярнуцца з паліцыі як найхутчэй! Гуд бай, мая дзяўчынка, не хвалюйся!

— Хай яму там улепяць як трэба, кабён не хваляваў спакой мірных грамадзян! — крыкнула ім услед Сінтыя.

— Будзь спакойна, Сінтыя, ён даведаецца, пачым фунт ліха!

Сінтыя замкнула дзверы на два абароты ключа, на засаўку і, гордая адважным мужам, спакойна заснула.

Калі Лары і ўзломшчык завярнулі за найбліжэйшы вугал, Лары адпусціў яго руку, паляпаў яго па плячах і, усміхнуўшыся, сказаў:

— Дзякуй, стары!

Той сцягнуў з галавы чорную нейлонавую панчоху і ўсміхнуўся. А Лары працягваў:

— Ты толькі падумай, гэта ж мая першая вячэрняя вылазка пасля таго, як я два месяцы назад жаніўся! Без цябе мне б ні за што не выбрацца! Ты сыграў цудоўна! Пойдзем вып'ем!

**Томас Гардзі** (Англія)



—*Скажыце, як праехаць на станцыю?*



**Ён трымаў сувязь з вёскай: прыязджаў да бацькоў па сала.**

# НІЎКА



## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!

### НЕ ТАВАРЫШ І НЕ БРАТ

*Нямала ёсць такіх умельцаў:*
*Менш працаваць, больш загараць.*
*Не маюць нейкіх там адмецін,*
*Але іх лёгка распазнаць.*
*Хто прывучыўся толькі браць, —*
*Нам не таварыш і не брат.*

*Ёсць тыпы іншыя... Каторы*
*Урве, — не знаеш, дзе і як, —*
*І пранясе міма вахцёра*
*Круг кілбасы, а то й кумпяк.*
*Хто прывучыўся гэтак браць, —*
*Нам не таварыш і не брат.*

*Шафёр аўтобуса, бывае,*
*Узяўшы плату, не міргне,*
*І тут жа грошыкі хавае*
*У асабісты партманет...*
*Хто прывучыўся гэтак браць, —*
*Нам не таварыш і не брат.*

*А ёсць між спецаў катэгорыя:*
*Імкненне ў іх — злізаць вяршкі,*
*Тыкія ўвішныя, праворныя,*
*Хоць працаваць не мастакі!*
*Хто прывучыўся толькі браць, —*
*Нам не таварыш і не брат.*

*Напомніць варта тут пра кодэкс*
*І пра міліцыю, пра суд...*
*За вуха гэта злое кодла*
*На сонца выцягнем, на люд!*
*Хто прывучыўся толькі браць, —*
*Нам не таварыш і не брат.*

**Мікола Гамолка**

### АЙ-ЯЙ-ЯЙ!

— Чулі? Так не пашанцавала нашаму вядомаму пісьменніку. Упаў і зламаў нагу.

— Што вы кажаце?! А чым жа ён цяпер пісаць будзе?

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Скажыце, калі ласка, колькі каштуе вунь той парасон?

— Дзевяноста марак.

— А танней штосьці-небудзь не знойдзецца?

— Дождж.

✲

— Я ўчора пайшоў з тэатра пасля другой дзеі, страшна нудная была п'еса.

— Дык чаму ж не пасля першай?

— Пасля першай у гардэробе была велізарная чарга.

✲

Дама расказвае сяброўцы:

— У апошні час я стала такой рассеянай... Вераш, учора, напрыклад, прышло пісьмо мужу, і я забыла яго прачытаць!

— *Глядзі, Вася! Знайшоўся твой гузік.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

### Kochać znaczy żyć

Z repertuaru Zdzisławy Sośnickiej

**Słowa: Jonasz Kofta**
**Muzyka: Barbara Bajer**

Kochać znaczy żyć,
oglądać z tobą świat.
Wszystko albo nic,
o taką stawkę gram.
Kochać znaczy żyć
i pobiec razem przez deszcz
tam, gdzie chcesz, gdzie tylko chcesz.

Kochać znaczy żyć,
zamieniać w uśmiech ból,
przeciw wiatrom iść,
aż do utraty tchu.
Kochać znaczy żyć
i patrzeć w słońce do łez.
Cały świat tak bliski jest.

To w nas śpi wiele dni,
nim miłość nagle
w nas obudzi jasna myśl.
Rośnie w nas wielki śpiew,
bo już czujemy,
rozumiemy, że tak jest.

Kochać znaczy żyć
i dziwić się co dnia,
że to ja i ty,
że razem ty i ja.
Kochać znaczy żyć
i więcej dawać niż brać.
Piekny świat jest tego wart.
Kochać znaczy żyć,
z nadzieją witać świt,
w gęstym lesie dni
na swoją drogę wyjść.
Kochać znaczy żyć,
zrozumieć wiele bez słów.
Starczy sił, by zacząć znów.

To dla nas śpi wiele dni,
nim miłość nagle
w nas obudzi jasna myśl.
Słyszę śpiew, wielki śpiew.
To wszystko we mnie jest,
gdy kocham, gdy wiem.

Kochać znaczy żyć,
ogladać z toba świat,
mieć tych kilka dni,
gdy się nie liczy czas.
Kochać znaczy żyć
i pobiec razem przez deszcz
tam, gdzie chcesz, gdzie tylko chcesz.
Kochać znaczy żyć
i dziwić się co dnia,
że to ja i ty,
że razem ty i ja.
Kochać znaczy żyć
i więcej dawać niż brać.
Piękny świat jest tego wart,
jest tego wart...

### ЯК СПРАВЫ?

Сустрэліся двое.
— Ну, як справы?
— Падшываюцца.

З „Веснікa Задрыпоніі"

### КУРЫЦЬ — ЗДАРОЎЮ ШКОДЗІЦЬ

Міг, крык, віск тормазаў — і вось ужо Я. Калабка адпраўляюць у бальніцу. Што ж, так бывае, калі бяжыш па папяросы цераз дарогу і не глядзіш на светафор.

### КРЭДА ХАПУНА

І на марожаным можна нагрэць рукі.



— *Тата, а ён курыць сігарэты без фільтра.*

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### УСЁ ПА-СТАРОМУ

У горад з рапартам прыязджае да пана свайго эканом.

— Ну, што, як там у вас?

— А, паночку, хваліць Бога, усё па-старому. Толькі во, крук — тая пакаёвая птушка здохла.

— Ад чаго ж яна здохла?

— Не ведаю добра. Кажуць, што падліны наелася.

— Якой падліны? Што ты?

— А паночку тады, як коні цуговыя палі.

Коні цуговыя палі? Што ты, маніш, ці што?

— А не, а пасля таго, як яны ваду вазілі.

— Коні цуговыя — ваду?! Здурэў, ці што?!

— А не, паночку, як афіцына спалілася, тады гэта было.

— Афіцына спалілася?! Калі?

— А, паночку, тады, як хаўтуры спраўлялі.

— Якія хаўтуры?

— А як старшая паня памерла, тады значыцца, ад гэтых свечак закінуўся недзе агонь дый усё пайшло з дымам...



### АДНАДУМЦЫ

— Тата, праўда, што людзі паходзяць ад малпаў? — пытае ў бацькі маленькі Міколка.

— Праўда, сынок.

— То я і гляджу: малпаў нешта мала стала.

### ПЕРАКАНАЎ

— Ведаеце, чаму тэлебачанне ніколі не заменіць газету?

— Не. А чаму?

— А ты паспрабуй заснуць, прыкрыўшы твар тэлевізарам.

## КУРЁЗЫ

### ЗБІРАЛЬНІК... ПАМЫЛАК

Збіраць, як вядома, можна ўсё: ад трамвайных білетаў да падцяжак. Але, бадай, усіх „пераплюнуў" калекцыянер француз, якога выявілі ў мінулым стагоддзі ў Пуату. Ён склаў спісак усіх граматычных памылак, якія зрабілі члены Французскай акадэміі ад часу яе заснавання да 1883 года. У гэтай, згодзіцеся, арыгінальнай калекцыі налічвалася да 3500 памылак, якія выцягнуў збіральнік з кніг, навуковых рэфератаў і газет.

### УДВАІХ ЯШЧЭ МОЖНА ПРАТРЫМАЦЦА

У статуце англійскіх клубаў „Адзінокія сэрцы" гаворыцца, што іх галоўнай мэтай з'яўляецца „аблягчэнне ўмоў існавання для састарэлых адзіночак, разведзеных, удоў і ўдаўцоў". У апошні час, аднак, статут прыйшоў у супярэчнасць з інтарэсамі існавання ўсёй сістэмы клубаў. Справа ў тым, што колькасць адзінокіх людзей у краіне з кожным годам не павялічваецца, а змяншаецца. Прычынай такой дэмаграфічнай з'явы стаў... празмерны рост кватэрнплаты, цэн на прадукты харчавання, тавары першай неабходнасці. Змагацца з усім гэтым у адзіночку цяжка, клуб жа „дапамагае" многім сваім членам дамовіцца аб уладкаванні сумеснага жыцця. У выніку клуб у Вермоўце пакінула больш чым палавіна яго членаў. Знайшоў сабе сяброўку жыцця і яго старшыня Бернард Стырмен. Англійская газета „Ньюс оф зе уорлд" прыходзіць да вываду: клубы „Адзінокія сэрцы", якія па ўсёй краіне існуе нямала, хутка будуць дубліраваць шлюбныя канторы.




**Не ўніжайце чалавека залатоўкай. Дайце яму дзесяць.**